Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 12 Пятніца, 30-га Красавіка 1926 г. м. Вільня Год I

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.—Шырокі дэмократызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
" " " 3 " 2 зл. 50 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski" pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам — 20 гр.
" сярод тэксту — 25 гр.
" на апош. стар. — 10 гр.
За радок нонпарэля.

# Хрыстос Уваскрос!

Дзьве тысячы гадоў таму, гэтая вялікая тайна зыйшла на зямлю. — Хрыстос, Сын Божы, быў расьпяты іудзейскім народам і праз тры дні ў славе ўваскрос! Хрыстос ня толькі перамог неперáможную сьмерць, паказаўшы ўсяму сьвету, што апрача істоты чалавечай, можа зьявіцца на зямлі незразумелая разумам Істота Божаская! Ен перакрэсьліў усе, да Яго існаваўшыя законы, і перамогшы самы слабы чалавечы дух, даў сьвету новы вышэйшы закон.

Дзьве тысячы гадоў прайшло.

За гэты час людзі рабілі ўсе высілкі, каб у праціўвагу законам Хрыста выставіць свае законы, бліжэйшыя на духу да чалавека, больш лёгкія і нібыта больш рэальныя. У працягу ўсіх гэтых 2 тысячаў гадоў былі яскравыя пэрыяды барацьбы з Хрыстом. Высоўваліся розныя тэорыі: Разуму, Рэалізму і Соцыялізму. Нарэшце Комунізм—гэтая гіпэрбола і лёгічнае даканчэньне соцыялізму—ад мэтадаў ідэалёгічнага непрызнаваньня Хрысьціянства, перайшоў да самай барацьбы з Богам. Увесь час свайго дзікага панаваньня над народамі Расеі комуністы пакладаюць усе высілкі, як для зьніштажэньня фізычнага ўсіх веруючых, гэтак роўным чынам і дзеля таго, каб вытравіць і самую Ідэю з душаў людзей. Прыдумываюцца хітрыя спосабы духоўнага калецтва моладзі і нават дзяцей, якіх прымусова запісваюць у арганізацыі „Комсамола" і „піанэраў". Ня раз можна было прачытаць у савецкіх газэтах аб тым, як моладзь рабіла архіпаскудныя, антырэлігійныя паходы каля царквы, у той мамэнт, калі іх бацькі сьпявалі: Хрыстос Уваскрос!

А аднак-жа, ня гледзячы на тое, што многія цэрквы перароблены ў кіно, комуністычныя клюбы і г. д., ня гледзячы на тое, што сотні тысячаў духавенства і веруючых пагібла за Веру, ня гледзячы на розныя рэпрэсіі, у СССР. ніколі яшчэ цэрквы ня былі так перапоўнены веруючымі, нават ў часы поўнай свабоды Веры, як яны перапоўнены цяпер. Ідэя Богачалавека, аддаўшага жыцьцё за вызваленьне людзей, перамагла ўсё! Любоў і вялікая, уседаруючая, — дала гэткае магутнае аружжа ў рукі безаружнага, слабога і замучанага народа, што перад сілай гэтага аружжа духа адступіў ўзброены ў жалеза і кніжныя доктрыны комунізм. Цяпер для ўсіх ясна, што кніжная мудрасьць Леніна і высілкі комуністаў ня толькі не зламалі Ідэі Хрыста, а наадварот—умацавалі яе, ачысьцілі і асьвяцілі кроўю мучанікаў за Веру і Хрыста. Праўда яшчэ і цяпер стогны мучанікоў за Веру далятаюць з падвалаў бальшавіцкіх Чэка. Яшчэ і цяпер намесьнік патрыярха сядзіць ў затачэньні, але стогны мучанікаў не пужаюць ужо веруючых, наадварот—яны еднаюць іх, яны умацняюць дух тых, за каго вышэйшыя праўдзівыя пастыры аддаюць свае жыцьцё. Вялікая Ідэя Хрыста жыве, сьвеціцца новым цудоўным сьветам, паказваючы шлях для змучаных і азлобленых народаў. Яна паказвае шлях і змучанаму Беларускаму Народу.

Напамінае яму Ідэю Хрыста—вялікай братняй любві і еднасьці, без якой так цяжка жывецца беларускаму народу.

У працягу двух тысячаў гадоў мілёны людзей кожын год пяюць у Вялікую Ноч: Хрыстос Уваскрос! Пяе і Беларускі Народ. Дык з поўным зразуменьнем вялікасьці гэтых слоў, з глыбокай пашанай перад ценьню замучаных за Веру і Хрыста братоў нашых, з цьвёрдай верай ў аканчальную перамогу Законаў Хрыста — вялікай любві — над злом і ненавісьцю, навісшымі цяжкімі хмарамі над усім сьветам, з верай у лепшую будучыню Бацькаўшчыны, запяем і мы: Хрыстос Уваскрос!

*Хрыстос Уваскрос! Вялікі Дзень!*
*Дзень перамогі Праўды вечнай.*
*Жыцьцё — забіла сьмерці цень*
*І сум нябыта безканечны.*

*Хрыстос Уваскрос!*
*І зможаны ўсе пекла сілы,*
*Паганьбены ўладыка цьмы.*
*Сьвятло пранікла ў мрак магілы,*
*Крыжом і Мукай моцны мы!*

*Хрыстос Уваскрос!*
*Надзеяй сьветлай поўна сэрца:*
*Мы не на век ў зямной юдолі.*
*І радасна ў высь нясецца*
*Хорам згодным добрай волі:*
*Хрыстос Уваскрос!*
*Хрыстос Уваскрос!*

## ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

Уся Заходняя Эўропа перажывае паважны палітычны крызіс. Новы хаўрус немцаў з бальшавікамі зьяўляецца вялікай пагрозай ня толькі для Лёкарно, але і для Лігі Народаў. Меўшы поўную няўдачу ў Кітаі, бальшавікі ўсю сваю ўвагу і сілы зьвярнулі на Заходнюю Эўропу. Яны з сіх сія стараюцца перашкодзіць уваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў і гэтым разьбіць лёкарнскае паразуменьне. Апрача таго для іх надта важна дабіцца хаця сякой-такой дыпляматычнай удачы на Захадзе, каб гэтым затушаваць некарыснае ўражаньне, выкліканае ўнутры СССР., няўдачай у Кітаі. Трудна наперад сказаць, які будзе рэзультат гэтай савецкай інтрыгі проці Лёкарно і Лігі Народаў, дзеля таго, што тут уваходзіць у рахунак няведамая вялічыня—Нямеччына.

Хаця амаль што ня ўсе кажуць, што мэтай нямецкай дыпляматыі зьяўляецца хаценьне вытаргаваць па магчымасьці больш канцэсіяў у саюзьнікаў за ўваход Нямеччыны ў Лігу Народаў, але гэтыя гутаркі апіраюцца на адных толькі прэдпалажэньнях. Запраўдныя жа пляны нямецкай палітыкі ведамы толькі немцам. Дзеля больш аб'ектыўнай ацэнкі плянаў Нямеччыны трэба ўзяць пад увагу гэткія абставіны:

Лёкарно больш патрэбна Францыі, Англіі, Бэльгіі, Чэха-Славакіі і Польшчы, чымсь Нямеччыне. Лёкарно павінна быць дапаўненьнем да аджыўшага вэрсальскага трактата, гарантыяй існуючага status quo і эўрапэйскага міра, у чым зацікаўлены толькі пераможцы, але не пераможаныя. Дабравольна згодзіўшыся на Лёкарнскі дагавор і ўваход у Лігу Народаў, Нямеччына зьвязвае сабе рукі ў будучыне. Дзеля гэтага яна згаджаецца на гэта толькі за вялікія канцэсіі, напр., што ей будзе дадзена заўсёднае месца ў Радзе Лігі побач з вялікімі дзяржавамі, што ей будзе дадзены мандат над некаторымі калёніямі і г. д. Між інш. сакавіковая сэсія Лігі Народаў паказала, што дамаганьні Нямеччыны спаткаліся на сваім шляху з вялізнымі перашкодамі. Ці ўдасца абыйсьці гэтыя перашкоды рэарганізацыяй Рады Лігі і ці гэта рэарганізацыя будзе карыснай для Нямеччыны, — няма ведама. А што датычыцца мандата для Нямеччыны над яе ранейшымі калёніямі, дык гэтае пытаньне ў апошні час надта запуталася ў сувязі з новай палітыкай Італіі, якая дамагаецца пашырэньня сваіх калёніяльных абшараў. Пасьля вайны амаль што ня ўсе нямецкія калёніі былі падзелены між Англіяй, Францыяй і Японіяй. Італія была пакрыўджана. А вялізная скучанасьць і прырост насяленьня ў Італіі, аднача̄сна з закрыцьцем эміграцыі ў Амэрыку, прымушаюць шукаць новых шляхоў для італьянскай эміграцыі. І бязумоўна на бліжэйшай сэсіі Лігі Народаў Італія закране пытаньне аб новым разьдзеле калёніяльных мандатаў. Гэткім чынам ранейшыя пляны Англіі, каб компэнсаваць Нямеччыну за Лёкарно і ўваход у Лігу аддачай ей некаторых калёніяў спаткаюцца з перашкодамі, дзеля таго, што зьяўляюцца гэткія-ж дамаганьні і з боку Італіі. Калі-ж Нямеччына на можа разьлічаць на атрыманьне калёніяў і лепшае за іншых палажэньне ў Лізе Народаў, дык тады ёй няма ніякай патрэбы ўваходзіць у Лігу Народаў.

Раней Нямеччына была зацікаўлена ў тым, каб пагадзіцца з саюзьнікамі, дзеля таго, каб апошнія мягчэй глядзелі на яе ўнутраныя ваенныя падгатоўкі. Але цяпер гэты клопат адпаў пасьля таго як спэцыяльная камісія Лігі Народаў у складзе вялікіх дзяржаваў прызнала, што Нямеччына споўніла усе ўмовы, патрэбныя дзеля ўваходу яе ў Лігу Народаў. А карыстаньне яе з неабмежаванага амэрыканскага крэдыту зрабіла яе з боку фінансава-эканамічнага ня толькі незалежнай ад ранейшых пераможцаў, але нават паставіла ў болей выгоднае палажэньне, чымсь Францыю, Бэльгію і Польшчу, якія ня могуць атрымаць пазыкаў на выгадных варунках. Нямеччына ўжо сама дае пазыкі. Нядаўна быў высланы транспарт золата ў Маскву вагай 550 пудоў.

Усе гэтыя абставіны робяць Нямеччыну як з палітычнага, гэтак сама й з фінансава-эканамічнага боку свабоднай і незалежнай ад саюзьнікаў. Нямецкая прэса ўжо без цэрамоніі адкрыта выяўляе гэткі пагляд, што, калі Францыя або Італія могуць рабіць якія хочуць хаўрусы, дык чаму ня мае права гэта рабіць Нямеччына? А з прычыны выступленьня чэшскага міністра заграні̄чных справаў проці нямецка-савецкага дагавора, орган нямецкага міністра заграні̄чных справаў заявіў, што „Нямеччына ня лічыць па-

трэбным даваць каму-колечы справаздачу са сваіх унутраных справаў". Гэта ўжо адказ не далёкарнскай Нямеччыны.

Гэткім чынам пазыцыя Нямеччыны зусім нявыразная. Англія і Францыя зрабілі вялізную абмылку, што не правялі яе ў Лігу Народаў у сакавіку, калі бальшавікі, занятыя кітайскімі справамі, не зьвярталі ніякае ўвагі на Нямеччыну. Калі Англіі і Францыі ўдасца ўцягнуць Нямеччыну ў Лігу Народаў, дык цяпер гэта будзе ім каштаваць шмат даражэй як раней.

Новая заходня-эўрапэйская сытуацыя ставіць у асабліва цяжкае палажэньне Польшчу, якая ізноў апынулася ў савецка-нямецкіх клешчах. Няма ведама, ці бальшавікі прапанавалі і Польшчы зрабіць гэткі самы дагавор. Заграгічная прэса піша, што гэткая прапазыцыя была зроблена, але польскі ўрад адмовіўся. Польшча, зьвязаная саюзным дагаворам з Францыяй і падпісаўшая лёкарнскі дагавор, ня можа згадзіцца на бальшавіцкія прапазыцыі, меўшыя на мэце разьбіць і лёкарнскі дагавор і Лігу Народаў, і ня можа далучыцца да ўсходняга Лёкарно, якое арганізуе Масква і якое павінна быць проціпастаўлена Заходняму Лёкарно. Польшча ўжо мела магчымасьць пераканацца ў хітрыках савецкай палітыкі пасьля прабываньня Чычэрына ў Варшаве. З сваіх абяцанак ён ня споўніў аніводнай. Наадварот--польска-савецкія адносіны ў апошні час папсаваліся. І гэта тлумачыцца трудным унутраным палажэньнем Польшчы, што дае бальшавікам надзею выклікаць рэвалюцыю ў сваей суседкі. Маскоўскі Інтэрнацыянал ізноў зьвярнуў усю сваю ўвагу на Польшчу, узяўшы на сябе ініцыятыву арганізаваць першамайскія дэманстрацыі у той час, як савецкая дыпляматыя старанна працуе, каб Польшчу ізаляваць. Апрача Нямеччыны, савецкі ўрад запрапанаваў падпісаць дагаворы аб нэйтралітэце—Літве і Балтыцкім дзяржавам. Яшчэ няма ведама, як зарэагуюць на гэта Латвія і Эстонія, больш залежныя ад бальшавікоў. Фінляндыя адказала здаецца адмоўна, а Літва вядзе перагаворы з Масквой, і трэба спадзявацца, што дагавор будзе падпісаны ў канцы траўня. Гэта толькі бальшавікам і была патрэбна. Яны хочуць разьбіць супольны фронт між Балтыйскім і Чорным морам і аддзяліць Балтыйскія рэспублікі ад Польшчы і Румыніі.

Аб рэзультатах гэтай інтрыгантскай палітыкі рана яшчэ казаць. Аднак усе гэтыя абставіны яшчэ больш заблутываюць унутранае палажэньне Польшчы, якое пасьля развалу „вялікай урадовай коаліцыі" зрабілася амаль што не крытычным. Ад самага пачатку было відаць, што коаліцыя, абыймаўшая пяць партыяў, пачынаючы ад правых і канчаючы сацыялістамі, зьяўляецца абсурдам. Гэта коаліцыя, меўшая мэтай аздаравіць фінансы, у рэзультаце толькі больш затрудніла фінансавае палажэньне. Прайшло ўжо пяць месяцаў бязплоднага таптаньня на месцы. Што хацелі правясьці правыя, то правалівалі сацыялісты і наадварот. У канцы былі апрацаваны два фінансавыя праэкты: мін. Зьдзехоўскага, апіраючыйся на павялічаньні даходаў ад манаполіяў, чыгункі і памяншэньні расходаў на адміністрацыю, і праэкт польскай соцыял. партыі, высунуты з выразна дэмагогічнай мэтай. І як толькі выявілася, што фінансавы праэкт P.P.S. ня можа прайсьці, апошняя выйшла з коаліцыі і адазвала двох сваіх прадстаўнікаў з кабінэта. P.P.S. былі пераконаны, што з іх выхадам з коаліцыі кабінэт мін. Скшынскага зараз-жа пойдзе ў адстаўку і тады пры новых перагаворах аб складзе кабінэта яны будуць мець першую роль. Але гульня ў міністраўскі крызіс у цяперашні крытычны мамэнт, калі злоты можа страціць сваю вартасьць і калі перад недалёкім 1 мая бальшавікі працуюць, каб выклікаць у Польшчы разруху, зьяўляецца ня толькі вар'яцтвам, але ліхадзействам. Дзеля гэтага зусім правільна зрабіў прэзыдэнт Рэспублікі, не прыняўшы адстаўкі кабінэту Скшынскага, пакуль не пройдзе 1 мая і ня будзе ўрэгулявана пытаньне аб выдачы ўрадоўцам пэнсыі за май. А сацыялісты, замест таго, каб памагчы, перайшлі ў самую рашучую апазыцыю ў адносінах да ўраду.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## У ПОЛЬШЧЫ.

— 27 красавіка соймавая бюджэтная камісія разглядала праэкт бюджэтнай праграмы на месяцы травень і чэрвень. У абароне свайго праэкту выступаў міністар Зьдзехоўскі. Праэкт прыняты.

— 27 красавіка ў Варшаве здарылася страшэнная катастрофа. Падчас хаўтуроў ахвяры нядаўняй катастрофы палкоўніка Сэнднэцкага, ў паветры стукнуліся 4 аэрапляны, 2 зараз-жа зваліліся на зямлю, 2 іншыя пашкоджаны і з трудам апусьціліся на зямлю. 2 лётчыка забіты, трэці цяжка ранены.

—Праз усю заходнюю частку Польшчы пранясьлася страшэнная бура-цыклён. Град выбіў палову пасеваў. Разьнесена бурай шмат вёсак. Убыткі дасягаюць 1 мільёну злотаў.

— Гэтымі днямі ў Варшаве закончыцца працэс дактароў Заплатынскага, Шарэцкага і інш., якія за хабары прызнавалі навабранцаў няздольнымі да вайсковай службы.

— Па чуткам, цяперашні ўрад Скшынскага 4 траўня мае ізноў падацца ў адстаўку.

## ЗАГРАНІЦАЙ.

**ФРАНЦЫЯ.** Сэнат, 274 галасамі проці 7, ухваліў бюджэт на 1926 год, уносячы пэўныя папраўкі.

**АНГЛІЯ.** Значна паменшыўся лік безработных. Цяперашняя колькасьць безработных, даходзячая да 990,000 чалавек, зьяўляецца меншаю, чым нават у 1920 годзе.

**НЯМЕЧЧЫНА.** У зьвязку з падпісаньнем Нямеччынай гарантыйнага дагавору з ССРР. пачаліся тайныя перагаворы паміж Англіяй, Францыяй, Італіяй, Бэльгіяй і Чэхаславакіяй. Памянёныя дзяржавы лічаць гэты трактат здрадай Лізе Народаў і арганізуюць супольны фронт проці Нямеччыны і ССРР.

**ТУРЦЫЯ.** У зьвязку з грэцка-італьянскай умовай, якая скіравана проці Турцыі, мабілізавана 250,000 чалавек.

**С.С.Р.Р.** запрапанаваў Літве падпісаць гарантыйны дагавор, кшталтам савецка-нямецкага. Пакуль-што літвіны адказу на гэтую прапанову ня далі.

**ГРЭЦЫЯ.** У Салоніках узарваліся склады амуніцыі. Страты аграмадныя. Газэты пішуць, што гэта справа былых паўстанцаў проці гэн. Пангалоса.

**СІРЫЯ.** Французы перамаглі Друзаў і занялі іхнюю сталіцу. Паўстанцы разбіты і здаюцца пераможцам. Па апошнім весткам з Александрэты, месцовы самаўрад пастанавіў заснаваць самастойную Паўночна-Сірыйскую Дзяржаву.

**ІНДЫЯ.** У месьце Калькуце пануе тэррор. Магамэтанскія паўстанцы захапілі пошту і зруйнавалі яе. Шэф ангельскай паліцыі забіты. Усяго забіта за апошнія дні каля 400 чалавек. Індусы арганізуюць самаабарону, бо ангельская паліцыя ня ўсілах, абараніць іх.

# Агляд прэсы.

У зьвязку з апошнім крызісам коаліцыйнага Ураду ў Польшчы, „Kurjer Wilenski" у № 90 зьмешчае цікаўны артыкул, у якім аўтар піша:

„Урадовы крызіс пачынаецца пры вельмі некарысных варунках. Сойм усё яшчэ ня можа зразумець, што ў сваім сучасным складзе і пры гэткіх прэрогатывах, ён зьяўляецца мёртвай калодай, якая заваліла дарогу для дзяржаўнага разьвіцьця. Ён зьяўляецца найвялікшым ворагам польскага парлямэнтарызму.

Ня маючыя ніякае здольнасьці да творчае працы, пазбаўленыя якога-колечы аўтарытэту і папулярнасьці сярод сьвядомай часткі грамадзянства, соймавыя партыі гатуюцца да новага чортавага танцу над замучаным целам Польшчы. Мэты прадвыбарнай дэмагогіі кіруюць усемі іх чынамі.

Ці-ж можа быць тут месца для якога-колечы здаровага кампрамісу, які меў-бы на мэце праўдзівую дзяржаўную карысьць. Кожная новая соймавая коаліцыя, пасьля ўпадку істнуючай, наткнецца на гэткія-ж самыя непераможныя перашкоды. Здаецца, што ўжо перапрабаваны ўсе магчымыя коаліцыйныя комбінацыі, рэзультаты якіх мы ўсе аж занадта адчуваем на сваёй уласнай скуры.

Сойм ня мае часу для працы за конадаўчай. Горы праэктаў, якія маюць вялікую вагу, завальваюць сталы розных камісіяў. Паслы-жа заняты „урадаваньнем" г.зн. якраз тым, што да іх зусім не належыць.

Сучасны палітычны лад Польшчы зьяўляецца цяжкім гвалтам, які зрабіў на яе целе Устаноўчы Сойм."

Далей, абгаварваючы недакладнасьці польскай конституцыі, аўтар піша:

„Практычная немагчымасьць разьвязаць Сойм, бяз яго на гэта згоды, зруйнавала неабходную пры кожным дэмакратычным ладзе раўнавагу ўла-

Вяч. Шышкоў.

# „АСЬВЕТА".

## (З бальшавіцкага журналу).

„Электрафікацыя вёскі ідзе поўным ходам. Народ—не нацешыцца".
*(З газэт).*

Прышлі на вёску гэтыя самыя, як іх... ну, ведама... якіясьці... Прывалаклі дротаў ў кругох, ібы хамуты ці абодзьдзя для калёсаў, прымусілі мужыкоў стаўбы ставіць. Ведама, мужыкі згадзіліся, возяць. Мужыку чаму не вазіць; мужык цяпераха пайшоў псуты: яго прыняволь—д'ябла з пекла вазіць на гульню — павязе. — Абы грошы, ды па курсу.

А вось бабка Агата, дык адразу ўцяміла, што і дрот іхні і стаўбы — усё гэта справа нячыстая, акаянная; вунь як пачалі ўсю вёску дротам акручваць: са страхі на страху, ды на стоўб, ды ў хлеў, ды праз дзюрку ў сьценцы, ды пасярод хаты. І пачалі ўбіваць нейкія шкляныя штукі: чаркі—ня чаркі, ліха іх ведае...

Агаты мужык, стары, кажа:

— Добра! тутка вагонь будзе. Асьвета значыцца!

А бабка Агата плюе са злосьцяй:

— Дурань ты, стары! А газу куды-ж ліць? Анціхрыставая гэта штука! Цьфу! Калом трэба яе!..

А той, з гораду, сваё.

— Гэта называецца электрычнасьць. На млыне стаіць матор, машына гэткая. Электрычнасьць ідзе па дроту. Як пусьцім—пакруці бабка вось гэтую штучку—адразу будзе сьвятло і ў хаце і ў хлеве і на вуліцы.

Бабка кладзе на сябе крыж сьвяты, трасе галавой і кажа:

— Каб ты праваліўся на гэтым месцы і са штукай гэтай сваёй!

Круцілі-круцілі, дні тры гэтак. Урэшце кажуць: гатова!

Сямья бабкі села вячэраць. І толькі селі за стол—пых! Успыхнуў аганёк.

Дзед зарагатаў, кінуў лыжку, зарагатаў і Янка, сын-барадач, і баба яго зарагатала, і ўнучка Дунька. А бабка Агата раззявілася, чапяла ў яе руках затраслася.

— Ох, прэенчыла бабка,—гасіце яго, праклятаго, гасіце... Чары нейкія... Ня божы гэта вагонь... Прапалі мы! І села на скрыню—ногі падцяліся. А Янка пабег з хаты ў хлеў, і дзед за ім.

— Гарыць! Прыбёг Янка. — Сьвятло: карова хвастом меле, аўцы дзівяцца... Хы, хы-хы!.. І Янка ад радасьці смачна ад душы вылаяўся.

Пайшлі тут гутаркі: сідзяць, прыемна чмокаюць, дзед кашай цешыцца, запівае квасам. А бабка на скрыні сядзіць, вочаў з лямпы не спушчае.

— Не капціць?! кажа дзед. Дзіўна!

— Дзіва і ёсьць! кажа Янка. А вось закуруць ад гэтае лямпы—ніяк нельга! А нут-ка Дуньнілка—закруці!

Дунька ўстала на цыпачкі:—чык!

— Іш:—цёмна! кажа дзед ікаючы. А-нут-ка Дунька:—адкруці!

Зноў устала на цыпачкі Дунька: чык!

Іш: сьвятло! кажа Янка. І адразу! рагоча.

Палягглі спаць, лямпу згасілі, а бабка Агата ўсё сядзіць, з лямпы гэтай вачоў не спушчае. Хроп па хаце йдзе: ужо і певень прапяяў. Дунька варушыцца ўва сьне — бакі скрабе: клапоў у хаце — шмат. Устае Дунька, хліпае.

— Дунька, кажа баба Агата. — А нут-ка Дунька: адкруці!

Дунька—чык! сьвятло. Бабка на скрыні сядзіць, на лямпу глядзіць, ў вачох сьлёзы... Зьняла баба ў куце з бажніцы вобраз Мікалая, што на вяровачцы на грудзёх насіць і кажа Дуньцы гасіць. А сама, калі ўжо стала цёмна, закраталася каля лямпы, і ізноў села на скрыні, сядзіць... Прайшло колькі часу. Устаў Янка, пасапеў і пайшоў амацкам, растапырыўшы рукі ў сенцы. Ды па дарозе—тык! ды бабцы Агаце проста ў вока...

— Ня бачыш, ці што? Крычыць бабка. Янка — гэта ты? А ну запалі яе праклятую! Янка—шчуп-шчуп, знайшоў: чык! сьвятло! Бачыць Янка: вабразок Мікалая да лямпы прывешаны. А бабка на скрыні сядзіць, галавой трасе, жагнаецца, шапоча малітву... Схадзіў Янка куды трэ было, пагасіў лямпу, лёг па ложка.

Бабка носам дзяўбе, думае: Малая сіла ў вобразку... трэба крыж, ахвяры... зараз... зараз... Думала, думала дый задрамала.

І бачыць бабка сон: быццам яе-ж галава дый скок ей на калені! „Галава, галава!" шапоча бабка: „скажы мне галава, чароўнае слова"... А галава адказвае: „вазьмі чапялу, плюнь тры разы праз левае плячо, размахніся добра, ды чапялой па лямпе—бразь!"

Прачхнулася баба, ўзяла чапялу. Бачыць ля лямпы цень нейкая стаіць, штосьці шапоча ў цёмры. Бабка ня спудзілася, плюнула тры разы, як была паказана ўва сьне, праз левае плячо, абмацала лямпу, замахнулася, ды чапялой са ўсёй сілы—бразь! па лямпе...

Як быццам гром бабухнуў, пачуўся нейкі крык. Закрычаў дзед:

— Ой-ой! каб цябе, каб!.. Ідзі ты к чорту! Хто стрэляе? Хто мяне па макаўцы агрэў?

Ускочылі ўсе. Лямпу — чык! Няма сьвятла. Чырк! сернічку. Бабка з чапялой на падлозе пад лямпай ляжыць, стогне, енчыць, нагамі шмыргае. Дзед за патыліцу трымаецца. Янка ў барадзе скрабе. Дунька трасецца як у ліхаманцы.

Дзед кажа: Толькі пачаў Богу маліцца,—бо-ж світае ўжо, а тут я—ак дзяўбане мне па макаўцы!.. І аляпстрыка сапсулася... Вось табе і асьвета!

*Пераклаў Б. П.*

# № 12 НАШ САТЫРЫКОН № 12

**Гумарыстычна — сатырычны дадатак да „Беларускага Слова“.**

## ВЕДЗЬМА.

(*АПАВЯДАНЬНЕ*).

У Янкі неяк жонка захварэла.
Ей з кожным днём ставалася ўсё горэй.
Аж баба, наканец, зусім на той ўжо сьвет
глядзела.
Быў праўда фэршал ў вёсцы той,
Аднак Янук не запрасіў яго да хворай.
Бо-ж ведама, ад дактароў карысьці ніякой
Ня меў мужык яшчэ ніколі.
А клопату—заўсёды з іх даволі.
Дый кошт: плаці яму, ў аптэку,
Ад хворай ні на крок не адступай,
Ды па гадзінніку давай ёй леку...
А лек—пажальсі Божа!
Па крапэльцы, ці лыжачкай цыркай!..
Ці-ж крапля нейкая паможа?
Ня то нашопт знахаркі, або чары.
Тут, брат, адразу: або хворасьць міне,
Або, калі ўжо яна ёсьць Божай карай—
Раз-раз і супакоіцца хворы ў дамавіне.

Як раз у вёсцы Янука, за акаліцай,
Жыла вядомая навокал чараўніца.
Баяліся яе, на'т ведзьмай усе звалі,
Жагналіся, праходзячы ля хаты.
Аднак, дзеля таго, што чары памагалі, —
Ішоў у патрэбе да яе і бедны і багаты.
Вось, бачучы, што з жонкай кепска зусім
стала,
І на жыцьцё яе надзеі мала,
Удумаў і Янук наш ведзьму запрасіць
Папрабавала каб яна хваробу адчыніць,
Была ўжо ноч; ўся вёска спала,
Дождж хлюпаў, цемра, сьцюжа,—
(Глухая восень ўжо настала),
Ісьці хоць не хацелась Янку дужа,
Ад жаху—чуў: дрыжаць паджылкі ног...
Дый спаць была прызнацца ўжо ахвота,—
Пяражагнаўшыся: вядзе хай Бог! —
—Паплёўся ён праз вёску ўсю мясіць балота.

Ледзь трапіў ў цемры на хату ён старой.
Шчэ раз пяражагнаўся і ткнуў ў дзьвер
нагой.
А тая—шасьць! адразу й адчынілась.
(Відаць ў знахаркі яна й не зачынялась,
Бо ведзьма ні людзей ні Бога не баялась),
І хаты ўсё нутро прад вочы Янкі ўскрылась.

Сярод яе, на камні ці зыдэльку
Сядзела старая перад вагнём,
І зельле нейкае варыла ў рандэльку,
Мармочачы пад нос. Навокал—пар стаўбом.
Разглядзіць ў хаце што — ніяк ня можна
была,
Бо сталяваньне і вуглы—ўсё імгла пакрыла.

„Ухадзі Янук!“ пачулася як крэкат жабы.
Вайшоў; ў нос ударыў зельля едкі смурод.
І толькі тут убачыў, што ля бабы—
Сядзеў і цёрся аб калені—вялікі чорны кот.
Старая—скура й косьці; бы той камок сядзіць,
Гарбатая, малая. На чорным яе твары,
Як ціпка нейкая—загнуты нос тырчыць,
Ды сьвеціцца бы вуглі — блыскі вочаў
пары...
Мурашкі жаху папаўзлі ў Янкі па плячох...

Як пень—здубеў ён ля парога!
Чаго прыйшоў—і ўспамянуць ня мог:
Не засталося ў памяці—нічога...

*Б.Д.*

(*Канец будзе*).

## Кім быць?

Аднойчы, неяк пры спатканьні,
Муллы пытаецца Ахмэт:
— Ты маеш ўва ўсім пазнаньні,
Скажы, мулла, кім быць мне сьлед?

— Каб у працягу свайго веку,
Ты маны ілжывасьці ня знаў—
Будзь, браце, проста чалавекам,
Мулла прамудра адказаў.

Здаволены такім адказам,
Ізноў пытаецца Ахмэт:
— Скажы ўжо, мулла, мне разам—
Як даказаць мне гэта сьлед?

— Чаго сабе ты не жадаеш,
Ня трэ' рабіць таго другім!
У тым радасьць быту ты пазнаеш,
І будзеш шчасьлівы зусім.

*Разумнік.*

**Евангельля не для баб.**

Сьвяшчэньнік чытае евангельля: „...Авраам радзіў Ісаака...“

Пачуў гэта адзін селянін і шапоча другому:

— Вось былі дзіўныя часы, калі мужчына радзіў мужчыну!

— Ціха! — адзаваўся другі, бо як нашы бабы пачуюць, дык загадаюць і нам дзяцей радзіць...

ня яе правоў на гэтыя, набытыя па даўнасьці часьці ў роўнай долі з братам, разам з якім карысталася з гэтых часьцей.

**Падп. Д—чу**: *Запытаньне*: Дзядзька мой бяздзетны. Ен хоча ўсынавіць сына свайго швагра і перадаць яму зямлю. Дзядзьку ўжо гадоў 50. Сын швагра таксама —д арослы. Ці можа дзядзька гэта зрабіць?

*Адказ.* Калі дзядзька старэйшы ад таго, каго ён хоча усынавіць, на 18 гадоў—можа Ніяк вы яму перашкодзіць ня можаце, як у ўсынаўленьні, гэтак і ў перадачы зямлі і маемасьці.

**Падп. Я. С—ву.** *Запытаньне.* Старшы мой сын будучы у войску нарабіў даўгоў і выдаў 3 вэксэлі: на 100 зл., 50 і 40. Цяпер ён ўжо вярнуўся да хаты і жыве разам са мной. (Я яго не аддзяляў). Тыя, каму ён выдаў вэксэлі цяпер дамагаюцца ад мяне ўплаты доўга і пагражаюць падаць ў Суд. Ці могуць яны высудзіць з мяне і як бараніцца?

*Адказ:* За даўгі дзяцей, наагул, бацькі не адказваюць. Ніякі Суд з вас ня можа з вас прысудзіць па гэтым вэксэлям.

**Падп. Міхалінс К—вай.** 4 гады таму мой швагер усынавіў малалетняга майго пляменніка. Ен круглы сірата, бо бацькі памерлі ў бежанстве. Пляменніку цяперака 15-ты год. У прошлым годзе памёрла жонка швагра (ён быў жанэты на сястры майго мужа) У лютым г.г. швагер жаніўся другі раз і цяперака, слухаючы сваёй новай жонкі, ён выгнаў свайго прыёмыша і недае яму ніякае падмогі. Ці мае ён права дамагацца чаго небудзь ад усынавіцеля.

*Адказ:* Бязумоўна мае права на ўтрыманьне да поўналецтва. Трэ вызначыць над ім апеку. Апекуншай можаце быць вы, як цётка. Аб вызначэньні апекі над пляменнікам падайце заяву да мяйсцовага Судзьдзі. Калі вас вызначаць апекуншай, атрымаеце аб гэтым пасьведчаньне і ўжо як апякунша, падайце у той жа Суд. (Sąd pokoju) позву на швагра аб выдачы прапітаньня ўсынаўленнаму праз яго вашаму пляменніку за увесь час, ад якога ён быў выгнаны і да яго паўналецтва.

**Падп. Ю. К.—ку, У. Р—ву, К. І—чу**— адказы знойдзеце ў № 8 „Белар. Слова“.

**Падп. М. Дзядзела.** Адказ такі-ж як у № 11 „Белар. Слова“ падп. М. Д—лу.

**Падп. М. Як—ку.** Адказ такі-ж як у № 5 „Бел. Слова“ падп. К. Ю—ку.

**Падп. Я. З—му, Хр. Камашэнка** — адказы пасланы па пошце.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

*С, Барысэвічу.* Газэта ўвесь час пасылаецца Вам акуратна. Патрабуйце на пошце.

*Вацкевічу.* Газэту пасылаем акуратна, але падпісныя грошы ад Вас атрымліваем ...не акуратна. Ад Вас атрымана толькі 1 зл. за сакавік. Калі нэ ўрэгулюеце рахунка — высылку спынім зусім.

*Я. Побалю.* Пробныя нумары пасылаем прысылайце падпіску.

*Разумніку.* З прысланага карыстаам. Прысылайце яшчэ

Т. *Белановічу.* Адказ на юрыдычнае запытаньне зьмешчаны ў № 11 „Бел. Слова“.

*Міхальскаму, Шыдзюку і Сінюку.* Юрыдычныя парады даем толькі падпісчыкам газэты.



Адказны Рэдактар Т. Вернікоўскі. Друк А. Дворжэца Завальная 32. Выдавец Ч. Бел. Рада